Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 10 (46) 8-14 сакавіка 1996 года Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Са святам, жанчыны!



8 сакавіка– свята не толькі жанчын. Гэта свята для жанчын, але святкуем мы яго ўсе разам. Чалавек не стаў бы чалавекам, каб не было пачатку ў Жанчыне. Жанчыне-маці, жанчыне-каханню, жанчыне-дабрыні... У гэтыя веснавыя дні ваша ўсмешка, ваша задуменнасць, ваша любоў, як і заўсёды, з намі. Са святам!

*Проста мужчыны.*

## Для жанчын-ветэранаў

***Добрую справу зрабіла напярэдадні свята беларуская партыя жанчын "Надзея" Мядзельскага раёна, якую ўзначальвае Вольга Тункевіч.***

Сумесна з галіновымі райкомамі прафсаюзаў, аддзеламі культуры і сацыяльнай дапамогі ва ўтульную залу раённай бібліятэкі запрасілі жанчын-ветэранаў, пераважная колькасць якіх знаходзіцца на заслужаным адпачынку. У гонар былых працаўніц гучала музыка, песні. Быў накрыты святочны стол, уручаліся падарункі.

*Павел ЖУКАЎ.*

## Выбух а 4-й гадзіне раніцы. Ёсць ахвяра

***РАДАШКОВічЫ. 1 сакавіка а 4-й гадзіне раніцы ў клубе "Пошук" Дома дзіцячай творчасці адбыўся выбух. Вядзецца следства.***

Дом дзіцячай творчасці знаходзіцца ў цокальным паверсе жылога дома №35 па вуліцы Савецкай.

Дзякаваць Богу, ні жыхары дома, ні сам дом не пацярпелі. Выбіты вокны ў трох пакоях, але ж без ахвяр не абышлося. Адзін з прысутных памёр ад атрыманых ран. Што рабіў чалавек такой парой у клубе– высветліць следства.

*Мікола ЛІННІК (па тэлефоне).*

## У Смаргоні адпачываюць

***По бутэльцы гарэлкі і шампанскага, ляльку "зарабіў" смаргонец К. на традыцыйных провадах зімы.***

Многа было жадаючых залезці на высокі слуп і зняць мініяцюрны кошык. Але пашчасціла аднаму. Распрануўшыся да споднага, малады чалавек пераадолеў вышыню пад ухвальныя крыкі балельшчыкаў. На жаль, пераможца назваць сваё прозвішча адмовіўся.

*Аркадзь ПАДГОЛ.*

## "Грамадзянскае дзеянне" ідзе ў народ

***Пасля візітаў у Бабруйск і Навапалацк лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Станіслаў Багданкевіч 3 сакавіка сустрэўся з жыхарамі Маладзечна. Надзеі апошніх убачыць таксама Генадзя Карпенку не спраўдзіліся. Разам з былым галоўным банкірам краіны прыехалі толькі дэпутат ВС Васіль Шлындзікаў і галоўны рэдактар штотыднёвіка АГП "Грамадзянін" Яўген Агурцоў.***

Перапоўненая зала Дома культуры чыгуначнікаў не вельмі стрымана, але, безумоўна, з цікавасцю слухала пазіцыю членаў АГП, прадстаўнікі якой складаюць апазіцыйную фракцыю "Грамадзянскае дзеянне" ў ВС. У асноўным па пытаннях выхаду з эканамічнага крызісу краіны, спынення заняпаду вытворчасці, спрашчэння падатковай сістэмы і зніжэння выдаткаў на ўтрыманне дзяржаўных структур.

С. Багданкевіч вельмі канкрэтна, як і належыць прафесару, адзначыў, што прэзідэнт РБ сёння робіць памылку, ігнаруючы рашэнні ВС і парушаючы законы. Аднак на непасрэднае пытанне: ці прапануе ён выказаць недавер прэзідэнту, адказаў адмоўна. Апальны лідэр АГП лічыць, што інтарэсы краіны вышэй за асабістыя амбіцыі, а асноўнае сёння– абараніць канстытуцыйную законнасць. Нікому, нават органам улады, нельга парушаць законы, якія існуюць. Трэба зняць прыгнёт на галоснасць і забяспечыць аднолькава вольны доступ да СМІ. Гэткая думка супраць таталітарнасці яднае сёння ў ВС членаў АГП з іншымі фракцыямі, у тым ліку камуністамі і аграрыямі.

*Святлана САРОКА.*

## Тата Карла з "Батлейкі"

***Я, нібы той Бураціна, люблю куды-небудзь усунуць свой нос. Вось і цяпер падгледзеў за распранутымі актрысамі. Ім яшчэ не рабілі макіяж, не шылі адзенне. І наогул, выйдуць яны на сцэну праз некалькі тыдняў. Актрысы– лялькі Мінскага абласнога тэатра "Батлейка", што ў Маладзечне.***

Мой субяседнік Аляксандр Пятровіч Занкевіч– майстар лялек, які працуе ў "Батлейцы" пяць гадоў. Трапіў у тэатр адразу пасля службы ў арміі. Самастойна вучыўся майстэрству лялечніка. Зрабіў каля 200 казачных персанажаў. Найбольш працаёмкія марыянеткі (іх цягнуць за ніткі). Яны– гэта быццам мы. Усё часцей залежым ад абставінаў.

***–Сярод вашых "дзяцей" можам вылучыць характары, якія сустракаюцца ў жыцці?***

–Амаль усе лялькі– жыхары нашага горада. Паназірайце за чыноўнікамі. Прыгожыя знешне людзі, багатае на іх адзенне. Але рухаюцца, паводзяць сябе ў залежнасці ад таго, хто з імі размаўляе. Пад гэтыя вобразы поўнсцю падыходзіць Ірад з казкі "Меч Анёла". Ці возьмем, напрыклад, прадаўца магазіна: прыгожая кабета, але прыгажосць яе халодная, у вачах ільдзінкі. Ну адзін да аднаго– Мачыха з казкі "Дзікія лебедзі".

***–Як ствараюцца Ірады, Мачыхі, добрыя і злыя героі?***

–Пішацца сцэнарый казкі. Мастак Валер Рачкоўскі займаецца творчым працэсам: стварае вобразы на паперы. З дрэва, пап'е-машэ, паралону я раблю тулавы, галовы, рукі, ногі. Усё збіраю. Мастак Галіна Цанцавіцкая вырашае, што героі будуць апранаць. Таццяна Пракоф'ева шые ім вопратку, чаруе над прычоскамі. А потым ужо жывыя акцёры вучаць сваіх малодшых братоў па прафесіі хадзіць, гаварыць, смяяцца.

***–Якой лялькай можна палохаць маленькіх?***

–Калі ўжо зусім не слухаюцца, зрабіце так,– за тканіну пастаўце і ўключыце вентылятар. "Вось і нячысцік да нас завітаў– у-у-у! Ешце хутчэй." А лялькі ўсе добрыя, незалежна ад таго, станоўчыя яны героі, ці не. Глядзіце, як вам усміхаецца Ойле-Лукойле.

***–Чуў, што ў гэтай майстэрні вы пазнаёміліся з будучай жонкай, якая працуе мастаком. З ёй таксама робіце лялькі?***

–Сапраўды, так. Жонка цяпер сядзіць дома, гадуе адну з нашых лялек і не скора яшчэ выйдзе на работу.

***–Жадаю вашай вялікай сям'і дабрабыту. А ляльцы, што дома,– як мага хутчэй сустрэцца са сваімі драўлянымі брацікамі і сястрычкамі, і глядзець на іх, плёскаць у ладкі разам з іншымі маленькімі гледачамі.***

*Васіль САВІЦКІ.*

**Навіны рэгіёна**

## Дарыце ім сваё сэрца

***МАЛАДЗЕЧНА. Некалькі год таму Радашковіцкую школу-інтэрнат будаўнічы трэст "Маладзечнасельбуд" падзяліў на сферы ўплыву сваіх структурных падраздзяленняў. Былая СПМК-87, якая цяпер носіць назву "Будсервіс", у 1994-м выпусціла свой першы падшэфны клас у свет — амаль трыццаць васьмікласнікаў пакінулі сцены школы-інтэрната. Час сёння няпросты, таму і цікавілі цяперашнія адносіны дарослых і дзяцей.***

– Летась узялі чарговы клас – семнаццаць трэцякласнікаў,– супакоіў кіраўнік "Будсервіса" М. Бяднюк.

– Прыедзеш – расстроішся,– заўважае старшыня прафкома Н. Шаблоўская.– Дзеці нас адразу ў палон забіраюць. Мы ім падарункі, салодкі стол, яны – канцэрт, свае няхітрыя падарункі. Імкнемся стварыць ім хаця б на пэўны час дамашнія ўмовы. А малыя абнасіліся, бюджэтных грошай, натуральна, не хапае інтэрнату. Сшыткі ды кніжкі і тое ў радасць. Кіраўнік наш дзяцей любіць, ні разу ім не адмовіў. Выхавальнікі ў інтэрнаце таксама чулыя падабраліся.

Толькі за апошнія гады шэфы прывезлі сюды музычны цэнтр, адрамантавалі тэлевізар. Не прапускаюць ніводнае свята, на дні нараджэння дораць выхаванцам касцюмчыкі, цацкі. Дзеці рэгулярна робяць свае справаздачы: з дзённікамі, сшыткамі.

Гэтым дзецям няма куды ісці пасля заняткаў, бо няма ў іх роднага дома (у некаторых ёсць, але іх там не чакаюць). Дзякуй, што людзі не забываюцца пра іх.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

## У Вілейцы чакаюць паводкі

***Таццяна Француз, тэхнік-гідролаг мясцовай гідралагічнай станцыі, адзначае апошнія дні сакавіка, калі чакаецца пацяпленне, і таму абавязкова ўзнікне небяспека.***

Па апошніх дадзеных Таццяны Церах, тэхніка-аграметэаролага, снегаздымка прайшла ў 50 месцах і сярэдняя вышыня снежнага покрыва дасягнула 50 сантыметраў. У мінулым годзе на гэты час снег поўнасцю растаяў.

Пакуль стаіць на рэках лёд, узровень вады звычайны. Але ўжо праводзяцца прафілактычныя мерапрыемствы– з вадасховішча пакрыху спускаюць ваду.

*Аддзел інфармацыі.*

## Тэлефануйце, і вам дапамогуць

***ВІЛЕЙКА. Сям'ю, асноўны занятак якой сучасная камерцыя, наведалі рэкеціры. Прапанавалі дапамагчы ім– тры тысячы долараў ЗША згадзіліся б прыняць.***

А калі гаспадары не змаглі дапамагчы, проста ўзялі іх аўтамашыну маркі "Крайслер" пакатацца. Гэта ўсё адбылося ў канцы 1994 года. Ці не ведалі вілейчане, куды звяртацца, ці адразу купілі другі транспартны сродак?

А праз год пазванілі ў Маладзечанскі АБАЗ (аддзел барацьбы з арганізаванай злачыннасцю). Узбуджана крымінальная справа, арыштаваны дзеючыя асобы. Імі аказаліся злодзеі з Маладзечна, раней неаднаразова судзімыя. "Крайслер" пасля вымушанй камандзіроўкі адпачывае дома, у Вілейскім раёне. А начальнік аддзела Віталь Дубовік папярэджвае: грамадзяне, якія пацярпелі і могуць пацярпець ад вымагальніцтва, ведаюць аб іншых відах злачынстваў, абавязкова тэлефануйце 65911, 65913.

*Аддзел інфармацыі.*

## Смерць пад коламі аўтобуса

***АШМЯНЫ. Стаміліся супрацоўнікі ДАІ нагадваць камунальным службам аб стане дарог. Трагедыя здарылася вечарам.***

Вучаніца сярэдняй школы №1 вярталася дамоў на аўтобусе. Сыходзячы з прыступак, паслізнулася і трапіла пад колы. Аўтобус пераехаў дзяўчо. У сям'і засталіся бабуля, двое маленькіх дзетак і маці, якая злоўжывае спіртным. Суседзі кажуць, што на старэйшай ляжала адказнасць за ўсю сям'ю: бегала па магазінах, гатавала ежу, стрымлівала, калі трэба, маці.

*Аддзел інфармацыі.*

## Джэнтльмены ехалі дадому, а прыехалі ў турму

***У цягніку Маладзечна-Гудагай заўсёды многа народу. Але жанчыны, дзеці, старыя– натоўп для двух раней судзімых, нідзе не працуючых жыхароў Ашмян.***

"Джэнтльмены" ехалі дамоў, і, каб дарога была карацейшай, размаўлялі ўслых, смакталі ў вагоне цыгаркі. Супрацоўнікі Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце, якія суправаджалі цягнік, вырашылі разабрацца з хуліганамі на станцыі. Але тыя, ударыўшы міліцыянера па галаве, зніклі.

Злачынцы ўстаноўлены. Адзін з іх злоўлены. Другі ва ўцёках. Самае малое– тры гады пазабаўлення волі атрымае кожны.

*Аддзел інфармацыі.*

## Вінаваты газавы балон

***ВІЛЕЙКА. Чатыры чалавекі пацярпелі ў выніку выбуху газавага балона ў вёсцы Людвінова.***

Выбухнула ўвечары, аб адзінаццатай гадзіне. Саўгасны трактарыст Алег Лапша, унёсшы ў хату балон з газам, адчуў пах прапану і заўважыў, што ёмістасць пачала распаўзацца па шву. Папярэдзіўшы жонку, каб не ўключала электрычнасць і іншыя награвальныя прыборы, збіраўся ўжо выклікаць "аварыйную".

Але тут уключыўся халадзільнік і раздаўся выбух. У выніку ўзнікшага пажару цалкам згарэлі дзве кватэры васьмікватэрнага дома. Алег Лапша з апёкамі І-ІІІ ступеняў трапіў у рэанімацыйнае аддзяленне, астатнія трое пацярпелых таксама шпіталізаваны.

*Аддзел інфармацыі.*

# "Галерэя" пад дажджом

***МАЛАДЗЕЧНА. Побач з мясцовым калгасным рынкам знайшла прытулак выстаўка-продаж твораў дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва: цікавыя пейзажы, нацюрморты, партрэты.***

Да "вернісажу" маладзечанцы прызвычаіліся, бо ў паход па апельсіны ды кілбасы рушаць якраз паўз яго. Тут жа прыстасоўваюцца і бабулі, каб прадаць невялікую партыю тавару, прыкупленага ў магазіне. І ў дождж, і ў снег, і ў ясны дзень ідзе бойкі гандаль.

Твор выяўленчага мастацтва— тавар асаблівы. Яго цана спалучае вартасць працы, дарагіх фарбаў, рамы, халста, у яго ўкладаецца духоўнае, эстэтычнае. Адсюль зразумела, што і цэны на маляўнічыя пейзажы даступныя не кожнаму.

І ўсё ж такі, шмат карцін трапляе ў рукі пакупнікоў. Найлепш купляюць у перадсвяточныя дні ў якасці падарункаў. Бяруць іх і аматары жывапісу, каб упрыгожыць сваё жыллё. Здараецца, купляе карціны не той, хто разумее мастацтва, а той, хто мае грошы. Хто мастацтва разумее, грошай звычайна не мае.

–Больш за ўсё,– гаворыць адзін з аматараў жывапісу, уважліва разглядаючы пейзаж,– мяне захапляе прырода. Хацелася б бачыць сярод новых твораў больш кветак, сонца, такіх карцін, што ўзнімаюць настрой, нясуць радасць.

–Мінуў год, як мастакі Маладзечна атрымалі з дапамогай аддзела культуры гарвыканкома афіцыйны дазвол на існаванне выстаўкі-продажу,– расказвае мастак А. Банцараў.– Але ж умовы, у якіх яна праводзіцца, не адпавядаюць неабходным патрабаванням. Пад адкрытым небам карціны ў дарагіх рамах псуюцца ад вільгаці і пылу. Адсутнічае і спакойная атмасфера для ўспрымання твораў мастацтва. А гэта значыць, што самыя лепшыя з іх, выкананыя з душой і сапраўдным майстэрствам, не часта з'яўляюцца на вуліцы пад дажджом і снегам. Яны клапатліва захоўваюцца ў майстэрнях і сховішчах, чакаюць свайго часу, калі ў горадзе з'явіцца свая мастацкая галерэя.

Рынак свабоднага мастацтва пашыраецца. Канкурэнтныя адносіны паміж удзельнікамі выставы выяўленчага мастацтва спрыяюць росту майстэрства і якасці твораў.

***Наталля РАБЧАНКА.***

# З днём нараджэння!



Ганне Львоўне Балаховіч па дакументах 99 год. Радня сцвярджае: больш. А радняадных унукаў і праўнукаў чатыры дзесяткі. Большасць жыве паблізу. Хто ў Маладзечне, куды баба Ганна пераехала ў 50-я гадаваць унукаў, ды так і засталася, хто ў Смаргоні, хто ў Мінску.

Сёння жыццё поўнае сваімі праблемамі, клопатамі, але памяць вяртае часта ў вёску Стрыжы на Мядзельшчыне, дзе 6 лютага, напрыканцы мінулага стагоддзя ў сям'і селяніна Льва Балаховіча нарадзілася дачка Анюта. З днём нараджэння, Ганна Львоўна!

***Фота Ірыны КАРПІЦКАЙ, унучкі Ганны Львоўны.***

# Не ад добрага жыцця

***ВІЛЕЙКА. Гэты прыём грамадзян дэпутатам ВС Уладзімірам Варашніным быў тыповым, характэрным для сённяшняй вілейскай рэчаіснасці.***

А яна небагатая і невясёлая, гэтая рэчаіснасць. Менавіта таму большасць зваротаў– з просьбай аб дапамозе. Не ад добрага жыцця звярнуўся па дапамогу да дэпутата загадчык аддзела культуры райвыканкома Сяргей Трыдзенскі. Няма сёння грошай для правядзення масавых мерапрыемстваў, патрэбны стартавы капітал.

Валерый Скаражонак узначальвае ў горадзе тэатр песні. Патрэбна матэрыяльная падтрымка таленавітай моладзі, хоць першапачатковая– на набыццё апаратуры, рамонт аўтатранспарту. Калі калектыў трывала стане на ногі, самадзейныя артысты будуць зарабляць грошы самі. Патрэбна фінансавая дапамога стаматалагічнаму аддзяленню бальніцы, раённаму аддзяленню таварыства інвалідаў, трэцяй гарадской школе.

Дэпутат абяцае падтрымку, але зазначае, каб яго не ўспрымалі толькі як чарадзея, які можа вырашыць любое пытанне і выкласці любыя сродкі.

–Уся наша бяда ў тым, што ў апошні час жыццё складваецца так, што мы развучыліся працаваць, адвучылі ад гэтага людзей.

Больш дзесятка розных пытанняў, якія зможа вырашыць толькі парламент, паставіў перад дэпутатамі пенсіянер В. Міхасенка. Заўвагі Віктара Емяльянавіча тычыліся недасканаласці закона аб прыватызацыі жылля, пенсійнага забеспячэння, кампенсацыі ўкладчыкам, ільготаў для ветэранаў, ліквідатараў і пенсіянераў.

Уладзімір Варашнін згодзны з думкай прэзідэнта: не можа нармальна існаваць дзяржава, дзе пяцьдзесят працэнтаў насельніцтва– ільготнікі.

Асаблівую ўвагу дэпутата сярод шматлікіх просьбаў аб дапамозе прыцягнулі тыя, калі людзі прыходзяць да яго ад адчаю. Патрэбна лячэнне хворым дзеткам. У Мінску некаторых захворванняў не лечаць, а дзе ўзяць сродкі, каб пралячыць дзетак у Маскве. Уладзімір Мікалаевіч Варашнін дапамог двум сем'ям матэрыяльна, каб тыя змаглі завезці дзяцей на лячэнне ў Расію. Але сваю задачу, як дэпутата ён бачыць у тым, каб працавалі ўсе прынятыя паміж Расіяй і Беларуссю пагадненні. Тады па накіраваннях Міністэрства аховы здароўя беларусы маглі б лячыцца ў Расіі бясплатна.

–Сённяшні стан грамадства такі, што дапамога патрэбна многім,– падводзіць вынікі прыёму грамадзян дэпутат.– Таму так шмат людзей звяртаецца па дапамогу. І не сустракаў такіх, хто б прыйшоў з канкрэтнай дзелавой прапановай. Той, хто ведае, што рабіць, займаецца справай.

І вось– апошні ў гэты дзень наведвальнік. Яўген Машонскі ўзначальваў саюз кааператараў Вілейшчыны, сам чалавек творчы. На прыём да дэпутата ён прыйшоў з канкрэтнымі прапановамі па арганізацыі невялікіх прадпрыемстваў.

–Такі бізнес мне па душы,– шчыра радуецца Уладзімір Мікалаевіч.– Люблю людзей дзелавых. А стварэнне дадатковых рабочых месцаў для Вілейкі з яе высокім узроўнем беспрацоўя– гэта вельмі важна.

***Наталля ВАЛЫНЕЦ.***

# Выкручваемся самі

***З Уладзімірам Шошыным, дырэктарам мядзельскага лясгаса, мяне звёў выпадак.***

*Даведка.*

*Агульная плошча зялёнагга масіву– 69,4 тысячы гектараў.*

*Колькасць работнікаў– 322.*

*9 лясніцтваў і вытворчы ўчастак па распілоўцы драўніны.*

***–Уладзімір Уладзіміравіч, кім сябе адчуваеце ў такой буйной гаспадарцы: дзедам-лесавіком, уладаром лесу?***

–Жабраком. У лясгасе я 13 гадоў. Людзі тыя ж, магутнасці таксама. А жыццё зусім іншае...

***–Асноўныя напрамкі вашай дзейнасці?***

–Стратэгічны– вядзенне лясной гаспадаркі. Але сёння не менш значны– гаспадарчаразліковы (продаж драўніны, вырабаў і г. д.) Безумоўна, лесагаспадарчая дзейнасць фінансуецца дзяржавай. Але сродкаў недастаткова, каб усюды падтрымліваць парадак.

***–Вялікая курортная зона патрабуе вялікіх выдаткаў.***

–Курортныя лясы складаюць 56,6% ад агульнай плошчы– наша гора. Нам ніхто не даваў магчымасці развіваць вытворчасць. Толькі гадоў з пяць таму пачаў на свой страх і рызыку гэта рабіць. Раней да нас чарга стаяла, каб набыць тыя ж дошкі. Кіраўнікі калгасаў, прадпрыемстваў у выканкоме не адну гадзіну сядзелі за дазволам. А цяпер мы маем што прадаць, а пакупнікоў небагата. Тэлефануюць, цікавяцца цэнамі. І ў адказ– дорага, далёка да вас ехаць. Добрыя рабочыя адносіны ў нас з беларуска-літоўскім СП "Сега-Медыум", беларуска-германскім прадпрыемствам, што ў Маладзечне. Спрабуем завязаць адносіны з Вілейкай. Як паветра, неабходны спецыялісты ў галіне маркетынгу. Каб знаходзілі пастаянных кліентаў, умелі аформіць дакументы. Гэта праблема.

***–Знайшоўся кліент з вялікім жаданнем набыць, напрыклад, дзелавую драўніну. Але пусты сёння ў яго кашалёк. Адпусціце, паверыце на слова?***

–А вось тут паўстае яшчэ адна праблема– запазычанасць. Летась за кошт рэалізацыі лесапрадукцыі мы самаакупіліся на 37%. Сёння прапануем дровы, дзелавую драўніну– на 157 мільёнаў рублёў. Але ў доўг не хочам прадаваць– спачатку заплаціце. Фірмы лопаюцца, як бурбалкі. Пакінуць з носам.

***–А якую самую галоўную праблему вызначылі б?***

–Зберагчы тое, што маем: абсталяванне, машыны...

***—... людзей?***

–Моладзь не заўсёды вытрымлівае ўмовы працы. Паглядзіце, што за вокнамі робіцца. Да аб'екта і сабакі на санках не давязуць. Раней па дзве кватэры ў год будавалі на долевым удзеле. А цяпер– выжыць бы. Таму і застаюцца ў гаспадарцы людзі, загартаваныя і працай, і жыццём. Што тычыцца зарплаты, не такая ў нас яна і малая. Рабочы лесагаспадарчага напрамку атрымлівае ў сярэднім 605 тысяч у год, гасразліковага– 925. А наогул да нас лепш прыязджаць летам. Тады дыхаць, працаваць і размаўляць лягчэй.

***Васіль САВІЦКІ.***

# Першыя ў атрадзе– астравецкія пагранічнікі

***У асабовага саставу Астравецкай пагранкамендатуры ад такой снежнай зімы настрой прыўзняты: за ўвесь студзень на мяжы з Літвой не было ніводнага парушальніка ці грузу, які спрабавалі б пераправіць у абход пунктаў пагранічнага кантролю на месцах,- праз такія гурбы на машыне не праедзеш. А ўсе найбольш бойкія дарогі перакрываюцца пагранічнымі нарадамі. Таму дапамога надвор'я пагранічнікам адчувальная.***

Затое летась спроб парушэнняў мяжы было больш чым дастаткова. А спякотнае лета накладвала свой адбітак на і без таго нялёгкую службу. Менавіта пра гэтыя моманты года мінулага апавядаў у час гутаркі намеснік каменданта Астравецкай пагранкамендатуры старшы лейтэнант Віталь Волкаў.

–На аб'язных дарогах летась нашымі пагранічнікамі было зроблена 50 затрыманняў,– зазначыў ён.– У асноўным, "камерсанты" спрабавалі вывозіць тавар у суседнюю Літву. Было і наадварот. Гэта даволі востра адчувалася ў час гоначна-аўтамабільнага буму, які ўспыхнуў у нашым раёне. Затрымалі 10 аўтамабіляў "Жыгулі" розных мадэляў і дзве іншамаркі. Іх пераганялі без адпаведных дакументаў з тым, каб потым прадаць на нашых аўтарынках.

Нямала клопатаў нам дастаўлялі патэнцыяльныя пастаўшчыкі літоўскім сябрам гарэлкі беларускай вытворчасці. Цяжка сказаць, за што ўпадабалі літоўцы "Зуброўку" і "Пшанічную"– ці то за нізкі кошт, ці то і сапраўды за добрую якасць, але першай было затрымана 133, а другой– 198 бутэлек. Але гэта кветачкі ў параўнанні з машынай, на якой спрабавалі перавезці 18 тон спірту. А самая буйная партыя канфіскаваных тавараў народнага спажывання была ацэнена ў 80 тысяч долараў. Там знаходзіліся коўдры, футры і іншае.

Па-ранейшаму, папулярныя каляровыя металы. На пачатку 1995 года мы некалькі разоў затрымлівалі партыі медзі па 300-400 кілаграмаў. Але гэта аказалася проста пылам у параўнанні з амаль 37 тонамі, якія затрымалі пазней.

Сапраўдным бічом сталі для нас затрыманні асоб з афра-азіяцкага рэгіёна. У сакавіку затрыманы 29 чалавек, якія накіроўваліся ў Вільнюс. Пасля гэтага былі групы з 20, 40 чалавек. Усяго ж сіламі Астравецкай пагранкамендатуры летась затрымана і адпраўлена за межы нашай краіны 195 афра-азіятаў. Найбольшая небяспека ў тым, што яны тыднямі, месяцамі дабіраліся да мяжы, таму многія маглі стаць разносчыкамі інфекцыйных захворванняў. А мясцовыя жыхары– людзі, па натуры сваёй добрыя,– дазвалялі ім карыстацца вадой з калодзежаў, давалі розныя рэчы, а гэта якраз і магло стаць крыніцай інфекцыі.

Усяго ж намі ў мінулым годзе прадухілена ад вывазу за мяжу тавараў на агульную суму ў 4 мільярды 700 мільёнаў рублёў. Гэта, а таксама стан дысцыпліны, фізічнай і баявой падрыхтоўкі дазволіла нам заняць першае месца ў Смаргонскім пагранічным атрадзе.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

# Не турбуйцеся, мужыкі, вылечваецца імпатэнцыя

***Урач-псіхатэрапеўт Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера Сяргей Цвірко на размову выдзеліў пяць хвілін. Пад дзвярыма яго кабінета стаяў натоўп ахвяр "зялёнага змея". "Ці не патэнцыяльныя яны імпатэнты?"– пытаюся я ў Сяргея Іванавіча.***

–Ёсць такая рызыка. Празмернае ўжыванне алкаголю вельмі ўплывае на патэнцыю.

***–А ці можна па знешніх прыкметах выявіць хворага?***

–Пытаннем на пытанне. Уявіце сітуацыю: у пакоі сядзяць людзі інтэлігентнага складу. Зможаце, пакуль паміж імі не пачалася размова, адрозніць разумную галаву ад пустой?

***–Але ўсё ж. Імпатэнцыя– хвароба?***

–У сексапаталогіі, як хвароба, не выдзяляецца. Парушэнне патэнцыі можа быць вынікам якога-небудзь захворвання. Напрыклад, пасля неўрозу.

***–Вынікі могуць прывесці да самагубства.***

–Можа здарыцца і так. Калі пытанням сексу ў жыцці надаецца асноўнае значэнне. А калі чалавек не засяроджвае на гэтым увагу, праз нейкі час усё можа стаць на свае месцы. І без дапамогі ўрача. Галоўнае, каб мужчыны не турбаваліся раней, чым трэба. У мяне знаёмы ездзіў на працяглы тэрмін у камандзіроўку. Не меў там, па яго словах, палавых сувязяў. Прыехаў дадому– бяда. Знізілася патэнцыя, скараціўся па часу палавы акт. Іван, назавем яго так, пачаў заглядваць у бутэльку. А трэба было пачакаць некаторы час. Парушыўся ўмоўна-рэфлекторны характар палавой дзейнасці.

***–Больш падрабязна аб прычынах узнікнення імпатэнцыі.***

–Працэнтаў на 80 палавая слабасць узнікае па псіхагеннай прычыне– стрэсы, неўрозы, сіндром чакання няўдачы. У мужчыны палавы акт прайшоў няўдала. І ён ужо ўпэўнены, што і ў другі раз нічога не атрымаецца. Затым ідуць уралагічныя прычыны, саматычныя– хваробы печані, нырак, страўніка. Палавая слабасць узнікае, калі паражаюцца артэрыі, вены ў арганізме і непасрэдна ў палавым органе.

***–Гавораць, каб адчуць сябе сапраўдным мужчынам, трэба карыстацца дэвізам: "менш работы– больш часу на адпачынак". У санаторыях, дамах адпачынку з першых дзён старыя і маладыя размяркоўваюцца па парах.***

–Правільна будаваць сваё жыццё– гэта, безумоўна, панацэя ў нейкім сэнсе. Папрацаваў, адпачыў. З'еў садавіны, агародніны. Сёння так не атрымліваецца.

***–Калі мужчына "занядужыў", куды яму ісці?***

–Самае галоўнае– не ўпадаць у адчай. Імпатэнцыя вылечваецца. Звяртайцеся да нас, альбо ў службу "Сям'я", якая распачынае сваю дзейнасць.

***Васіль САВІЦКІ.***

# Праграма тэлебачання

## Понедельник, 11 марта

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. Недвижимость. 8.00 «Игорь Владимирович Ильинский. Уроки жизни». 9.00 «Огневушка-поскакушка». Короткометражный фильм. 9.30 «Приключения волшебного глобуса, или Проделки ведьмы». Мультфильм. 10.35 «Души моей царицы...» 11.45 «Вы чье, старичье?» Худ.фильм с субтитрами. 15.00 Новости. 15.15 Мультфильм. 15.40 «Я вернусь...» 16.20 ТВ - школе. Музыка. 2-й класс. Встреча с маршем в музыкальных произведениях. 16.35 «Дедка за репку». 17.05 Параграф. Новые профессии на рынке труда. 17.35 На добрый лад. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 «История одной любви». Док.фильм. 18.25 Экономикст. Недвижимость. 18.35 «Трижды один». Музыкальная передача MTV. 18.50 Новости (с сурдопереводом). 19.05 «Риск-версия». Телеигра. 19.35 «Это мы не проходили...» Экономическая программа. 19.50 Встреча с кинорежиссером Георгием Юнгвальдом-Хилькевичем. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.45 Спортивный телекурьер. 22.10 Е.Матвеев и Л.Хитяева в худ.фильме «Цыган». 23.30 Художник Григорий Нестеров. 24.00 Новости.

### ОРТ

14.00 Новости (с сурдопереводом). 14.20 «Драконы подземелий». Мультсериал. 14.40 Марафон-15. 15.00 Звездный час. 15.35 «Элен и ребята». 16.00 Джэм. 16.30 Семь дней спорта. 17.00 Новости. 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 Час пик. 18.35 Угадай мелодию. 19.00 Если. Ведущий - В.Познер. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 19.55 Реклама. 20.00 Время. 20.30 Операция. 20.45 Программа передач. 20.50 Криминальный сериал «Метод Крекера». 7-я серия. 21.50 Радзинский о Татьяне Дорониной. 22.35 Новости. 22.45 Константин Кинчев в фильме Валерия Огородникова «Взломщик».

### Канал «Россия»

16.00, 19.00, 22.00 Вести. 16.20 Новая линия. «Депеша». 16.50 Клип-антракт. А. Укупник, К.Метов. 17.00 «От винта». 17.15 Спасение 911. 18.10 L-клуб. 19.25 Подробности. 19.35 «Смерть личности». Худ.фильм (Великобритания). Часть 2-я. 20.40 Репортер. 20.55 Прогноз погоды. 21.05 Без ретуши. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 «Спрут-6». Худ.фильм (Италия). 7-я серия.

### Санкт-Петербург

12.00, 15.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ. 12.10 «Первая любовь». Сериал. 13.10 Скорая помощь. 13.30 Путешествие по Востоку. 13.40, 17.35 Музыкальный момент. 13.50 «Дом кино» представляет авторскую версию фильма А.Вайды «Земля обетованная». 15.40 «Немецкая волна». 15.55 «Земля обетованная». 2-я часть. 17.10 Стиль жизни. 17.25 Мультфильм. 17.40 Страсти-мордасти. 17.55 Приказано выжить. 18.10 Большой фестиваль. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». Сериал. 19.45 Телеслужба безопасности. 19.55 «Путешествие в счастливую Аравию». Худ. фильм. 21.15 «Дом кино». К.Кардинале, А.Вайда, О.Стоун, Р.Родригес и другие. 22.00 Спорт, спорт, спорт... Кубок Европы по биатлону. 22.25 День рождения. 22.35 «Телекомпакт». Музыкальное шоу. 23.15 Овертайм.

### НТВ

17.00 НТВ представляет: анонс недели. 17.05 «Чудесные годы». 96-я серия (США). 17.30 Футбольный клуб. 18.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Регулярные матчи НХЛ. «Филадельфия» — «Нью-Джерси». 21.00 «Сегодня». 21.35 «Любовные узы-2». Доминик Санда в фильме Лины Вертмюллер «Тайный десятый». Часть 1-я (Италия). 22.30 Времечко. 23.00 «Сегодня». 23.20 — 0.00 Музыкальная программа. «Пилот-2».

## Вторник, 12 марта

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Новости. 8.15 Авто-парк. 8.30 Бездельник. 9.00 ТВ - школе. Музыка. 2-й класс. Встреча с маршем в музыкальных произведениях. 9.15 «Вестгейт». Телесериал (США). 10.10 «Последней весной...» 10.40 «Марица». Худ.фильм. 11.45 «Был день и время». 12.35 «Картина». Трехсерийный худ.фильм. 1-я серия. 15.00 Новости. 15.15 Мультфильмы. 15.40 Белорусская литература. 11-й класс. Василь Быков и его повесть «Знак беды». 16.20 «Все про все». 16.45 «Неизреченное». 1-я часть. 17.20 Уроки Н.Новожиловой. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 Инваспорт. Шкловская школа-интернат. 18.25 Экономикст. 18.35 «Трижды один». Музыкальная передача MTV. 18.50 Новости (с сурдопереводом). 19.05 Вертикаль. 19.40 «Вестгейт». Телесериал. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 «Звезды» на экране. С.Чиаурели и А.Тихонова в худ. фильме «Полет ночной бабочки». 23.30 Супергол. 24.00 Новости.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 8.00 Новости. 8.15 «Секрет тропиканки». 9.05 Если. Ведущий - В.Познер. 9.50 Смехопанорама. 10.15 «Загадочная планета». Мультфильм. 10.30 Угадай мелодию. 11.00 Новости (с сурдопереводом). 11.10 «Мы и рынок». 11.50 «Открытая книга». Фильм 1-й. 1-я серия. 13.00 «В зоопарке - ремонт». Мультфильм. 14.20 «Драконы подземелий». 14.40 Кварьете «Веселая квампания». 14.50 Мультитроллия. 15.10 Волшебный мир, или Синема. 15.35 «Элен и ребята». 16.00 ...До шестнадцати и старше. 16.30 Семь дней спорта. 17.00 Новости. 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 Час пик. 18.35 Угадай мелодию. 19.00 Тема. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 19.55 Реклама. 20.00 Время. 20.30 Операция. 20.45 Программа передач. 20.50 Леонид Харитонов в фильме «Улица полна неожиданностей». 22.05 Москва - Кремль. 22.25 Пресс-клуб. 23.35 Новости.

### Канал «Россия»

15.05 Праздник каждый день. 15.15 Там-там новости. 15.30 Компас «Роста». «Преодоление» (Германия). 15.45 Месяцеслов. 15.55 Клип-антракт. Валерия. 15.50 Месяцеслов. 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 16.20 Новая линия. 16.50 Мультфильм. 16.55 Киноафиша. 17.10 Непопулярная тема. 17.25 Устами младенца. 17.55 «Петербургские тайны». 19.25 Подробности. 19.35 «Штаны». Худ. фильм. 21.10 Чемпионат Европы по баскетболу среди клубных команд. ЦСКА -»По-Ортез» (Франция). 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Экран криминальных сообщений. 22.50 «Спрут-6». Худ. фильм (Италия). 8-я серия. 23.45 Джаз-клуб.

### Санкт-Петербург

12.00, 15.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ. 12.10 «Первая любовь». Сериал. 13.00 Скорая помощь. 13.30 Советы садоводам. 13.40 Овертайм. 14.00 «Немецкая волна». 14.15 Стиль жизни. 14.30 «Похищение чародея». Телеспектакль. 16.25 Детское ТВ. Три колеса, фолиант и... 16.55, 19.45 Музыкальный момент. 17.00 По всей России. 17.10 Показывает Ленинградская областная телекомпания. 18.10 Большой фестиваль. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». Сериал. 19.50 Телеслужба безопасности. 20.00 «Тихий вечер» с С.Шолоховым. 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22.10 День рождения. 22.20 «Тихий вечер» представляет худ. фильм «Ленинградские ковбои» встречаются с Моисеем» (Финляндия).

### НТВ

17.00 «Чудесные годы». 97-я серия (США). 17.30 Большой ринг. 18.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Лайза Миннелли и Ингрид Бергман в фильме Винсенте Миннелли «Нина. Это покажет время» (США — Италия). 20.45 «Оба-на»: избранное. 21.00 «Сегодня». 21.35 «Любовные узы-2». Доминик Санда в фильме Лины Вертмюллер «Тайный десятый». Часть 2-я (Италия). 22.30 Времечко. 23.00 «Сегодня». 23.20—0.20 Меломания: «Юритмикс».

## Среда, 13 марта

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Новости. 8.15 Мультфильм. 8.25 «Не улетай, землянин!» 9.00 ТВ - школе. Белорусская литература. 11-й класс. Василь Быков и его повесть «Знак беды». 9.40 «Вестгейт». Телесериал. 10.35 Зорная ростань. 11.15 Видимо-невидимо. 12.15 «Картина». Худ.фильм. 2-я серия. 15.00 Новости. 15.15 Мультфильм. 15.25 «Неизреченное». Часть 2-я. 16.00 «Отголосок-86». 16.30 Провинция. Новогрудский район. 17.00 Кредо. 17.20 Англия сегодня. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 Родное слово. 18.25 Экономикст. 18.35 «Трижды один». Музыкальная передача MTV. 18.50 Новости (с сурдопереводом). 19.05 Контрасты. 19.35 «Кто это?» Телеигра. 19.40 «Вестгейт». Телесериал (США). 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 А.Миронов, Е.Евстигнеев в худ.фильме «Невероятные приключения итальянцев в России». 24.00 Новости. 0.15 Королевская охота.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 8.00 Новости. 8.15 «Секрет тропиканки». 9.05 Тема. 9.50 В мире животных (с сурдопереводом). 10.30 Угадай мелодию. 11.00 Новости (с сурдопереводом). 11.10 «Контакт - деловое сотрудничество стран Содружества». 11.50 «Открытая книга». Фильм 1-й. 2-я серия. 13.00 «Нарисовать начало». Мультфильм. 14.20 «Драконы подземелий». 14.40 Кактус и К. 14.50 До-ми-соль. 15.10 Зов джунглей. 15.35 «Элен и ребята». 16.00 Тет-а-тет. 16.30 Семь дней спорта. 17.00 Новости. 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 Час пик. 18.35 Угадай мелодию. 19.00 Парижские тайны Эльдара Рязанова. Марина Влади. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.30 Операция. 20.50 Фильм «Десять негритят». 23.10 Новости. 23.20 Новые обыватели.

### Канал «Россия»

9.05 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 10.20 Милицейская хроника. 10.30 Музыкальный экспромт. 10.45 «Волшебный школьный автобус». Мультсериал. 11.15 Новая линия. 15.05 Праздник каждый день. 15.15 Там-там новости. 15.30 Чья сторона? 16.20 Дальний Восток. 16.50 Никто не забыт. 16.55 «Цептер». 17.10 Кипрас Мажейка. «Параллели». 17.25 Своя игра. 17.55 «Петербургские тайны». 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 20.30 От форте до пьяно. 21.00 Прогноз погоды. 21.10 Рек-тайм. 21.25 Астрология любви. Т.Гвердцители. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Сад культуры.

### Санкт-Петербург

12.00, 15.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ. 12.10 «Первая любовь». Сериал. 13.00 Скорая помощь. 13.30 Советы садоводам. 13.40 «Я возвращаю Ваш портрет». Муз. фильм. 14.40 Мультфильмы. 15.05, 17.05, 21.00 Музыкальный момент. 15.15 Стиль жизни. 15.40 «Немецкая волна». 16.00 К.Кардинале, А.Вайда, О.Стоун, Р.Родригес и другие. 16.35 Детское ТВ. Песенка за песенкой. 17.10 Показывает Ленинградская областная телекомпания. 18.10 Большой фестиваль. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». Сериал. 19.50 Телеслужба безопасности. 20.00 Час мэра. 21.05 Блеф-клуб. 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22.10 День рождения. 22.20 Парадоксы истории.

### НТВ

17.00 «Чудесные годы». 98-я серия (США). 17.30 Такова спортивная жизнь. 18.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Мишель Пфайфер, Мэттью Модин и Алек Болдуин в фильме Джонатана Демми «Замужем за мафией» (США). 20.45 «Оба-на»: избранное. 21.00 «Сегодня». 21.35 «Любовные узы-3». Лина Састри и Марио Адорф в фильме Нанни Лоя «Салонная игра» (Италия). 22.30 Времечко. 23.00 «Сегодня». 23.20—0.20 Кафе Обломов.

## Четверг, 14 марта

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Новости. 8.15 «Мужской хор», «Три истории с телефоном». 9.00 «Вестгейт». Телесериал (США). 9.55 Мультфильмы. 10.25 «История о принцессе-пастушке и ее верном коне Фалладе». Худ.фильм с субтитрами. 11.45 «Голуби мои, вы милые...» 12.05 «Картина». Худ.фильм. 3-я серия. 15.00 Новости. 15.15 Мультфильмы. 15.45 География Беларуси. 9-й класс. Центральная Беларусь как природно-хозяйственный район. 16.15 «Неизреченное». Часть 3-я. 16.50 Уроки Н.Новожиловой. 17.20 Арсенал. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 Игра в куклы. 18.25 Экономикст. 18.35 «Трижды один». Музыкальная передача MTV. 18.50 Новости (с сурдопереводом). 19.05 Международный курьер. 19.40 «Вестгейт». Телесериал. Заключительная серия. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 О.Басилашвили, М.Неелова, Н.Гундарева в худ.фильме «Осенний марафон». 23.45 «Крок». 0.15 Новости.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 8.00 Новости. 8.15 «Секрет тропиканки». 9.05 Парижские тайны Эльдара Рязанова. Марина Влади. 9.45 Клуб путешественников (с сурдопереводом). 10.30 «Чужой праздник». Мультфильм. 10.40 Смак. 11.00 Новости (с сурдопереводом). 11.10 «Под крышей мира». 11.50 «Открытая книга». Фильм 1-й. 3-я серия. 13.00 «Дед Мазай и зайцы». Мультфильм. 14.20 «Драконы подземелий». 14.40 Лего-го!. 15.10 Тин-Тоник. 15.35 «Элен и ребята». 16.00 Рок-урок. 16.30 Семь дней спорта. 17.00 Новости. 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 Час пик. 18.35 Лотто-Миллион. 19.00 Один на один. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 19.55 Реклама. 20.00 Время. 20.30 Операция. 20.45 Стивен Спилберг представляет фантастический фильм «Батарейки в комплект не входят». 22.40 Музыкальное шоу Ивана Демидова. 23.30 Новости.

### Канал «Россия»

9.05 «Санта-Барбара». Худ. фильм. 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 10.20 Милицейская хроника. 10.30 Мульти-пульти. 10.45 «Волшебный школьный автобус». Мультсериал. 11.15 Новая линия. 15.05 Праздник каждый день. 15.15 Там-там новости. 15.30 Кенгуру. 16.20 Новая линия. 16.50 Клип-антракт. Т.Ветрова. 16.55 Эксповидео. 17.10 Музыка на десерт. 17.25 Лидер-прогноз. 17.55 «Петербургские тайны». 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». Худ. фильм. 20.30 Джентльмен-шоу. 21.00 Прогноз погоды. 21.10 «Доктор-шлягер». Юбилейный вечер Вячеслава Добрынина. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Экран криминальных сообщений. 22.50 «Спрут-6». Худ. фильм (Италия). 9-я серия.

### Санкт-Петербург

15.05 Советы садоводам. 15.15 Стиль жизни. 15.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ. 15.40 «Немецкая волна». 15.55 «Первая любовь». Сериал. 16.40 Пой с нами. 17.00 По всей России. 17.10 Показывает Ленинградская областная телекомпания. 18.15 Большой фестиваль. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». Сериал. 19.45, 21.35 Музыкальный момент. 19.50 Телеслужба безопасности. 20.00 «Певец. Игрок. Бродяга». 20.30 Экспресс-кино. 20.45 «Золотой Телец». 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22.10 День рождения. 22.20 «Старое танго». В.Гаврилин. 22.40 Ток-шоу «Личные дела». В.Я.Ворошилов.

### НТВ

17.00 «Чудесные годы». 99-я серия (США). 17.30 Полчаса о теннисе. 18.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Джордж Си Скотт и Дайана Ригг в фильме Артура Хиллера «Больница» (США). 20.50 «Оба-на»: избранное. 21.00 «Сегодня». 21.35 «Любовные узы-4». Кэрол Олт в фильме Дино Ризи «Жить— скверная привычка» (Италия). 22.30 Времечко. 23.00 «Сегодня». 23.20—0.50 Дайан Китон, Майкл Мерфи и Мерил Стрип в фильме Вуди Аллена «Манхэттен» (США).

## Пятница, 15 марта

### Белорусское телевидение

7.35 «Лявоны». 8.05 «Сказка про Звездного мальчика». Худ.фильм. 1-я и 2-я серии. 10.15 «Неизреченное». Часть 4-я. 10.40 «Что было, что есть, что будет...» 11.30 Контрасты. 12.00 Дмитрий Смольский: автопортрет с учениками. 12.45 Дни и вечера Брестского областного театра драмы и музыки. 13.45 «Весна на Заречной улице». Худ.фильм. 15.15 Государственному театру музыкальной комедии Беларуси -25 лет. Гала-концерт. 16.55 Международный турнир по фехтованию памяти Германа Бокуна. 17.25 Золотая лира. Хит-парад белорусской песни. Заключительная программа. 18.40 «Белые Росы». Худ.фильм. 20.05 Видеофильм «Поет «Беседа». 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.45 «Цветы провинции». Худ.фильм. 23.05 Акколада.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 8.00 Новости. 8.15 «Секрет тропиканки». 9.05 Один на один. 9.45 Играй, гармонь любимая! 10.15 «Тихая поляна». Мультфильм. 10.25 Пока все дома. 11.00 Новости (с сурдопереводом). 11.10 «Беларусь сегодня». 11.50 «Открытая книга». Фильм 1-й. 4-я серия. 13.00 «Машенькин концерт». Мультфильм. 13.10 «Т. С. Н.» 14.20 «Драконы подземелий». 14.50 «Леля и Минька». 15.15 Фильмы-сказки Александра Роу .»Конек-горбунок». 16.25 «Сказка о старом эхо». Мультфильм. 16.30 Семь дней спорта. 17.00 Новости. 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 «Звезда» представляет... 18.25 Человек и закон. 18.55 Поле чудес. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 19.55 Реклама. 20.00 Время. 20.35 Реклама. 20.40 «Детективное агентство» Лунный свет». Сериал. 21.40 Взгляд. 22.25 Новости. 22.35 Криминальная комедия «Афера-2».

### Канал «Россия»

9.05 «Санта-Барбара». Худ. фильм. 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 10.20 Милицейская хроника. 10.30 Торговый дом. «Ле монти». 10.45 Белая ворона. 11.15 Новая линия. 15.05 Праздник каждый день. 15.15 Там-там новости. 15.30 Продленка. 15.50 Месяцеслов. 16.20 Новая линия. 16.35 Дисней по пятницам. «Высокое небо». Худ.фильм. 1-я и 2-я серии. 18.20 Клип-антракт. В. Цыганова. 18.25 Правительственные будни. 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». 20.30 Анализы недели. 21.00 Прогноз погоды. 21.10 «К-2» представляет: «Абзац». 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 «Золотая маска». 22.55 Музыка всех поколений. 23.25 «Как тени мечутся в грозу». Худ. фильм (США).

### Санкт-Петербург

12.00, 15.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ. 12.10 «Первая любовь». 13.00 Скорая помощь. 13.30 Советы садоводам. 13.40 Телешансон. 14.05 «Европейский калейдоскоп». 14.35, 17.05, 19.45, 20.05, 21.35 Музыкальный момент. 14.40 Телефильм (Чехия). 15.10 Телеблиц. 15.15 Стиль жизни. 15.40 «Немецкая волна». 16.00 «Старое танго». В.Гаврилин. 16.20 Детское «Баламуты». 17.10 Показывает Ленинградская телекомпания. 18.10 Большой фестиваль. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». 19.50 Телеслужба безопасности. 20.10 «Мишени». Худ. фильм (ФРГ). 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22.10 День рождения. 22.20 Парад парадов.

### НТВ

17.00 «Чудесные годы». 100-я серия (США). 17.30 Футбольный клуб. 18.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Русский детектив. «Трактир на пятницкой». 20.30 «ТЭФИ-96»: кто есть кто. 20.40 «Оба-на»: избранное. 21.00 «Сегодня». Информационная программа. 21.35 Час сериала. «Любовные узы-5». «КИНО» (Италия). 22.30 Времечко. 23.00 «Сегодня». 23.20 Мир кино. «Красная маска смерти» (США). 0.50 — 2.10 Эротические шоу мира.

## Суббота, 16 марта

### Белорусское телевидение

8.00 Фильм-концерт. 8.15 Уроки Н.Новожиловой. 8.45 Созвучие. 9.05 Сущность. 9.25 Здоровье. 9.45 «Дорога наверх» 10.05 Мультфильм. 10.25 «Все про все». 10.50 «Ералаш». 11.10 Программа для любителей туризма. 11.40 «Моя любовь, моя печаль». 12.40 Гурман. 13.00 Мир природы и увлечений. 13.45 Олимпийский силуэт. Дзюдо. 14.05 Многоголосие. 14.35 Коллаж. 15.05 Музыкальный салон Элеоноры Езерской. 15.45 Белорусский дом. 16.25 «Зорная ростань». 17.05 Четвертое измерение. 18.00 Математик Валентина Голубева. 18.35 «Леди и разбойник». Худ.фильм (Великобрнитания). 20.05 Банка комиксов. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.45 «Объект красоты». Худ. фильм (США). 23.40 Видимо-невидимо. 0.40 «Я люблю джаз». Давид Голощекин

### ОРТ

6.45 Телеканал «Подъем!» 7.45 Слово пастыря. 8.00 Новости. 8.10 Телеканал «Подъем!» (Продолжение). 9.30 Не зевай! 10.00 Утренняя почта. 10.35 Смак. 10.50 «Эрмитаж». Искусство Китая. 11.20 Фильм «Случайные пассажиры». 12.45 Умники и умницы. 13.30 Автомобиль и я. 14.00 Новости . 14.20 В мире животных. 14.55 Америка с М.Таратутой. 15.25 Бомонд. 15.50 Футбол.Чемпионат России.Спартак-Алания (Владикавказ) - «Торпедо»(Москва). Трансляция из Владикавказа. 17.55 Как-то раз. 18.10 «Золотая серия». Год 1979-й. «Пираты XX века». 19.45 Спокойной ночи, малыши! 19.55 Реклама. 20.00 Время. 20.35 Реклама. 20.40 Программа передач. 20.45 «Детективное агентство «Лунный свет». Сериал. 21.40 Брэйн ринг. 22.25 Новости. 22.35 «Коллекция Первого канала». Фильм Ингмара Бергмана «Сцены из семейной жизни».

### Канал «Россия»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.25 «Что день грядущий...» 7.30 «Вовкулакия, или Загадка доктора Никодима». 7.45 Золотой ключик. 8.05 Этикетка. 8.15 «Золотая антилопа». Мультфильм. 8.45 Парламентская неделя. 9.30 Большой хоккей. 10.10 До Москвы - далеко. 10.55, 22.30 Служба 299-00-00. 11.10 Карьера. 11.40 Сигнальный экземпляр. 11.50 Твои возможнасти, человек. 12.20 Клип-антракт. 12.30 «Поэт в России - больше, чем поэт». 13.20 Де факто. 13.35 «Эмили». Телефильм. 14.25 Караоке по-русски. 14.45 Пилигрим. 15.30 Площадь искусств. «Венецианский карнавал». 16.15 Империя игр. "Гладиаторы". 17.05 XX век в кадре и за кадром. Г.Александров. 17.55 Кино с продолжением. «Петербургские тайны». 19.25 Субботний вечер с Валентином Юдашкиным. 20.50 Прогноз погоды. 21.00 Аншлаг и К. 22.45 Река времени. 22.50 Автомиг. 22.55 Программа «А».

### Санкт-Петербург

9.00 Актуально-насущно. 9.30 Стиль жизни. 9.45 «Крик о помощи». Худ. фильм для детей. 1-я часть. 10.45 День рождения. 10.50 «Путешествие в Лилипутию Лемюэла Гулливера». Телеспектакль. 12.30 Экспресс-кино. 12.45 «Морис Бежар. Парадоксы». 13.25 Еще одна Россия. 14.55 «Рандеву со звездой». Б.Гребенщиков. 15.30, 18.30, 21.00 Информ ТВ. 15.40 «За глаза». Музыкально-развлекательная программа. 16.05 Студия «Воображи». 16.20 Цирковая программа. 16.45 Мультфильм. 16.55 Страсти-мордасти. 17.10 «Не хочешь - не смотри». 17.40 Теле-граф. 17.55 Ничего, кроме... 18.10 Большой фестиваль. 18.55 Чемпионат России по футболу. «Зенит» (СПб) - «Уралмаш» (Екатеринбург). 21.20 «Форт Саган». Худ. фильм (Франция). 1-я серия. 22.55 «Музыкальный рай».

### НТВ

17.00 Рен-ТВ представляет: «Дог-шоу. Я и моя собака». 17.30 Вернисаж Ильи Резника: Азиза. 18.00 «Сегодня». 18.30 Программа Сергея Доренко «Характеры». 19.10 Сериал «Крутой Уокер». (США). 20.00 Намедни. 20.45 Куклы. 21.00 «Сегодня». 21.35 «Джеймс Бонд — агент 007». Фильм 4-й. «Операция «Шаровая молния» (США). 23.50 Третий глаз. 0.50 — 2.25 «Плейбой».

## Воскресенье, 17 марта

### Белорусское телевидение

8.00 «Все о тебе». Фильм-концерт. 8.35 «Конан». Мультсериал. 9.00 Телебом. 9.55 О шахматах и шахматистах. 10.30 Лучшие хиты MTV. 11.00 «Зимний вечер в Гаграх». Х.ф. 12.25 «Вершина мира». Телеигра. 12.45 Туробъектив. 13.05 Все нормально, мама! Развлекательная программа. 13.35 Студия «Окно». «Жили-были...» 13.55 Авто-парк. 14.10 «Дикий юг». Научно-популярный сериал. 14.40 Победитель. 15.00 Бездельник. 15.30 Гости в дом. Египетские зарисовки. 15.40 «Вершина мира». Телеигра (продолжение). 16.00 Открытие Недели телевидения Молдовы. «Неизвестная Молдова». Видеофильм; «Миорица». Музыкальный фильм; «Кто заказывает музыку, тот и платит». Худ.фильм. 17.55 Чемпионат Англии по футболу. Премьер-лига. В перерыве -Колыбельная. 20.00 Резонанс. 20.50 Новости-ТВ. 21.05 Ток-шоу «Карамболь». 21.40 «Синема». «Бум». Худ.фильм (Франция). 23.35 «Бархатный сезон».

### ОРТ

6.50 Тираж «Спортлото». 7.00 Телеканал «Подъем!» 8.00 Новости. 8.10 Телеканал «Подъем!» (Продолжение). 9.25 Пока все дома. 10.00 Утренняя звезда. 10.50 Из первых рук. 11.00 Служу России! 11.30 Играй, гармонь любимая! 12.00 В городе N... 12.25 Под знаком «Пи». 12.55 Смехопанорама. Ведущий-Е.Петросян. 13.30 Приключенческий сериал «Пираты». 14.00 Новости (с сурдопереводом). 14.20 Георгий Свиридов. «Время, вперед!» 15.10 Клуб путешественников. 15.55 Сюткин и Ко. «7000 над землей». 16.15 Мультфейерверк: «Легенды острова сокровищ»,»Приключения Вуди и его друзей». 17.00 Новости. 17.20 Веселые истории в журнале «Ералаш». 17.55 Футбольное обозрение. 18.35 Роберт де Ниро в остросюжетном фильме «Обратная тяга». 20.55 Реклама. 21.00 Воскресенье. 21.45 Реклама. 21.48 Новости спорта. 21.55 Программа передача. 22.00 «Детективное агентство «Лунный свет». 22.55 Новости. 23.05 Любовь с первого взгляда.

### Канал «Россия»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.25 «Что день грядущий...» 7.30 Теремок. 7.45 Первый дубль. 8.00 Мировая деревня. 8.30 В мире авто- и мотоспорта. 9.00 Доброе утро, Европа. 9.30 Аты-баты... 10.00 Вести в одиннадцать. 10.15 Русское лото. 10.55 Торговый дом. 11.00 Клуб губернаторов. 11.30 «Хранители царства». Премьера док.фильма сериала «Тайна животных». 12.25 Клип-антракт. Группа «Дюна». 12.30 Театр моей памяти. Программа В.Смехова. 13.20 Не вырубить... 13.35 «Эмили». Телефильм. 14.30 Книжная лавка. 15.00 Горячая десятка. 15.55 Футбол без границ. 16.35 «Миры Михаила Врубеля». 17.00 Волшебный мир Диснея. «Чокнутый», «Аладдин». 17.55 Снимается кино... 18.00 Колесо истории. 19.25 «Горец-2». Худ.фильм (США). 21.00 Прогноз погоды. 21.10 Телекросс. 21.25 У Ксюши. 22.30 Служба 299-00-00. 22.45 Река времени. 22.50 Автомиг. 22.55 Дневник фестиваля «Золотая маска». 23.10 Лучшие игры НБА.

### Санкт-Петербург

8.00 Это ваш день. 8.30 Целительное слово. 9.00 Стиль жизни. 9.15 «Крик о помощи». Худ. фильм. Часть 2-я. 10.25 Храм. 10.55 День рождения. 11.00 Музыкальный момент. 11.10 Россия. Выбор пути. 11.35 «Барабашка ТВ». Клоунада. 11.55 Поет Лада Дэнс. 12.25 «Кучка стариков». Худ. фильм (США). 13.55 А.Асылмуратова в балете И.Стравинского «Жар-птица». 14.35 Детское ТВ. "Золотой ключ", «Бросайка». 15.40 Анонс телепрограмм. 15.55 Чемпионат Италии по футболу. 18.00 «Пой с нами». 18.30 Информ ТВ. 18.55 Телешансон. 19.25 Худ. фильм «Большой капкан, или Соло для кошки при полной луне» (Россия). 21.00 Информ ТВ. Международный выпуск. 21.25 «Форт Саган». Худ. фильм (Франция). 2-я серия. 22.50 «Ноу смокинг».

### НТВ

17.00 «Полицейский Кэттс и его собака». (США). 17.30 Телеигра «Сто к одному». 18.00 «Сегодня». 18.30 Музыкальная программа «Овация» с Максимом Дунаевским. 19.00 Сериал «Крутой Уокер». (США). 19.50 «Оба-на»: избранное. 20.00 Итоги. 21.10 Мир кино. «Пустыня Тартари» (Италия — Франция — Германия). 23.45 — 0.45 Лучшие цирки мира.

